# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 26 (288) 5 — 11 ліпеня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

## ІНФАРМУЕ

**СВЕТЛЫХ СВЯТОЧНЫХ ДЗЁН ВАМ, ЛЮДЗІ!**

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ




● Стар. 2





● Стар. 2—3



● Стар. 2—3





● Стар. 3

П
ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ
ЧЭРВЕНЬ — ЛІПЕНЬ
СІТУАЦЫЯ


● Стар. 9

МА-СТЫ-ХІН
● Стар. 4—5


● Стар. 11

ЧЭРВЕНЬ
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:
А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ


● Стар. 10




● Стар. 12


● Стар. 10—11

№ 26 5 — 11 ліпеня 1997 г.



# НЕ РУЙНУЙЦЕ ТРАКТАРАМ ПАДМУРАК

Сярэдзіна лета ў нас традыцыйна — пік "фестывальнага" сезона, сёлета асабліва багатага на гучныя падзеі. На фоне пышных урачыстасцяў з нагоды новага Дня незалежнасці, "930-годдзя Мінска" (дарэчы, не заснавання, а першага зруйнавання), міжнароднага Шагалаўскага пленэру і ўжо блізкага "Славянскага базару" застаўся амаль незаўважным двайны юбілей гонару і сумлення беларускай літаратуры — Янкі Купалы: неўзабаве споўніцца ўжо 115 гадоў з дня нараджэння паэта і 55 — з дня ягонай трагічнай смерці ў Маскве.

Дасюль, дарэчы, няма пэўнасці — забіў сябе Купала сам, даведаўшыся пра блізкі арышт, або быў знішчаны па загаду кагосьці з савецкага кіраўніцтва. Пэўна можна сцвярджаць толькі тое, што Купала і сталінізм нават пры ўсіх спробах кампрамісу не маглі фізічна суіснаваць доўгі час у адной дзяржаве. Мала хто ведае, што праз два дні пасля смерці паэта ў акупаваным немцамі Мінску памерла ад сардэчнага прыступу ягоная маці Дамініка Іванаўна. Атрымаць вестку пра крывавую смерць сына матчына сэрца магло хіба што ад Неба. Іх пахавалі ў адзін дзень — 1 ліпеня 1942 года. 35 гадоў таму урну з парэшткамі Купалы перавезлі ў Мінск і перапахавалі непадалёк ад магілы маці на Вайсковых могілках.

У межах падрыхтоўкі да юбілею песняра Міжнародны фонд Янкі Купалы і народны фотаклуб "Мінск" выступілі з ініцыятывай стварэння фотагалерэі мясцін, у якіх нарадзіліся лепшыя творы песняра. Ужо ўдалося рэалізаваць частку гэтага доўгатэрміновага праекта. Міжнародны фотапленэр "Па Купалаўскіх мясцінах", які, будзем спадзявацца, станецца традыцыйным, сёлета закрануў пераважна Лагойшчыну і Маладзечаншчыну. Фотамастакі працавалі ў Вязынцы, Акопах, Малых Бесядах, Жукаўцы ды іншых вёсках і хутарах, праз якія прайшоў жыццёвы і творчы шлях класіка нашай літаратуры.

Многія мясціны, вядома, выглядаюць ужо зусім інакш, чым у купалаўскія часы. Напэўна, большасць насельніцтва ў іх складаюць ужо не сяляне, а дачнікі. Знікае не толькі духоўная аўра радзімы паэта: святыя для кожнага свядомага беларуса мясціны часам нявечацца і фізічна. У Вязынцы нядаўна разбурылі масток праз крынічку. У Акопах скралі з прыдарожнага валуна велізарную дошку з вершам песняра, бо яна была зроблена з каштоўных каляровых металаў. Яшчэ раней у тых жа Акопах нехта зруйнаваў трактарам падмурак, на якім стаяла хата сваякоў Купалы, — шукаў прыхаванае, па чутках, да лепшых часоў золата. Дзікун-механізатар, напэўна, здзівіўся б, калі б хто сказаў яму, што вершы могуць быць даражэйшымі за золата, асабліва калі яны, як у выпадку Купалавых вершаў, самі сталі падмуркам дзяржавы. Мемарыяльную дошку на адноўленым будынку нехта расстраляў з паляўнічай стрэльбы. Паляванне на Купалу працягваецца і пасля ягонай смерці...

Таму натуральна, што фотамастакі здымалі пераважна тое, што захавалася амаль нязменным з пачатку стагоддзя, — валуны і рачулкі, туман над лугамі, гульню святла ў лістоце старых дрэваў. Менавіта гэта, напэўна, натхняла Купалу, абуджала ўяўленне і супакойвала душу песняра. Рызыкну назваць многія здымкі псіхадэлічнымі ў лепшым сэнсе гэтага слова — мройнымі, "высненымі". Пакуль ёсць у Беларусі такія краявіды — ёсць і надзея на з'яўленне новых геніяльных паэтаў. Асобна хацелася б адзначыць серыю Хенрыка Рагазінскага "Хаты Беласточчыны": стылізацыя пад архіўныя здымкі пачатку стагоддзя даволі актуальная ў сучаснай эстэтыцы фотамастацтва.

У пленэры бралі ўдзел 13 майстроў з чатырох братніх краін: Альбэрт Цэхановіч (кіраўнік праекта), Яўген Казюля (лепшы, на мой погляд, фотакар БелТА), Стасіс Жвіргждас (Літва), Яўген Камароў (Украіна), Юрый Васільеў (старшыня фотаклуба "Мінск") і іншыя. Іхняя праца, можна меркаваць, паспрыяе захаванню "тэрыторыі Купалы" і непасрэдным чынам: мясцовыя жыхары і ўлады цяпер з большай павагай пастаўяцца да помнікаў прыроды і культуры, якія здымалі шаноўныя госці.






Творы з фотапленэра.



У адрозненне ад іншых сёлетніх пленэраў, удзельнікі Купалаўскага ніякіх прызоў ці ганарараў, апрача ганаровых дыпломаў, не атрымалі: грошай на гэта ў дзяржавы сёння няма. Ад імя рэдакцыі падзячым за дапамогу ў ягонай арганізацыі ТАА "Дайнова-Цэнтр", Маладзечанскаму райвыканкаму і прадстаўніцтву фірмы "Фуджы-фільм" у Беларусі.

Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, дзе 4 ліпеня адкрылася выстава па выніках пленэру, мараць выдаць буклет з рэпрадукцыямі лепшых твораў, але і тут без спонсараў нічога не атрымаецца.

Выстава (а гэта больш за 100 твораў) будзе працягвацца да пачатку жніўня, а потым вырушыць у вандроўку па абласных цэнтрах краіны. Наведайце — не пашкадуеце! Магчыма, гэтыя краявіды натхняць і вас на што-небудзь добрае, як натхнілі Купалу.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

**P.S.** 7 ліпеня ў 11.00 у парку імя Янкі Купалы адбудзецца ўскладанне кветак да помніка песняру.

*Рэдакцыя выказвае ўдзячнасць дырэктару Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Жанне Дапкюнас за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.*



# БУСЛЫ ПРАДЧУВАЛІ БЯДУ...

Своеасаблівым помнікам-падзякай народнаму паэту Якубу Коласу з'яўляюцца створаныя на яго радзіме філіялы музея ў Смольні, Акінчыцах, Альбуці. Выбітная гадавіна — 115 гадоў з дня нараджэння славутага беларускага песняра, якую нельга абмінуць, — свята. І вось стыхія вырашыла адзначыць гэтую гадавіну па-свойму...

23 чэрвеня ў 18 гадзін наляцела на стаўбцоўскі край бяда — ураган. Сведкі распавядаюць, што нечакана ўдалечыні з'явілася агромністая філетавая хмара, пад якой клубіўся туман. І калі хмара насунулася блізка, стала цёмна як ноччу. Людзі, якім зараз больш за 80 гадоў, кажуць, што ніколі ў сваім жыцці не бачылі падобнага, нават у Вялікую Айчынную вайну бамбардзіроўка выглядала куды спакайней... Ад урагану дрэвы закручваліся ў косы, ламаліся на дамах дахі, гул стаяў страшэнны. У вёсцы Верацішчы загінуў чалавек, у іншых вёсках шмат людзей былі паранены. Адна жанчына атрымала пераломы ключыцы, калі вецер збіў яе з ног і літаральна кідаў па асфальце.

А часам здараліся выпадкі, падобныя да чорных гумарэсак... Напрыклад, два хлапцы добра падпілі, нешта святкуючы. Адзін зайшоў у прыбіральню... Як жа ён здзівіўся, калі яго разам з прыбіральняй зашпурнула аж за пятнаццаць метраў!.. І прыйшлося хлопцу выбірацца праз вочка, бо прыбіральня легла на дзверы.

Не абмінула навала і музейны комплекс Якуба Коласа...

З дырэктарам Стаўбцоўскага дома культуры Міхасём Міткевічам мы і наведалі Акінчыцы. У доме, дзе нарадзіўся паэт, пашкоджаны чаротавы дах; паваленыя бярозы і таполі. Мясцовы супрацоўнік філіяла музея Якуба Коласа ў Акінчыцах Юры Міцкевіч паказвае пустое гняздо буслоў — яны сёлета тут не пасяліліся, мабыць, прадчувалі нябеспеку.

Далей мы едзем на сядзібу Коласа, дзе ўсё прасякнута духам паэмы "Новая зямля". Там нараджаліся радкі гэтага славутага твора. Міхась Міткевіч, які цытуе нам вершы паэта, раптам паведамляе, што мы на старажытным Екацярынінскім тракце (Нясвіж—Мінск) — тут калісьці раз'язджалі карэты. На жаль, тракт выглядае цяпер зусім не так, як стагоддзі таму, — брукаванка і верставыя слупы зніклі. Адзінае, што нагадвае аб ім, — гэта палі ад моста на Нёмане.

І вось наша машына збочвае на лясную дарогу. Тут відавочніцца моц прамінулай буры — усюды паваленыя дрэвы. Легкавая машына ледзь пра-ціскаецца паміж ствалоў, кожную хвіліну мы рызыкуем, бо ад лёгкага похапу ветру дрэвы, што навіслі над дарогай, могуць зваліцца на нас. Нарэшце Міткевіч паведамляе, што мы прыехалі, і сапраўды — перад намі сядзіба Коласа. Але яе выгляд наганяе сум — паўсюль паваленыя векавыя дрэвы.

# КАБ МЕЦЬ —

Не так даўно ў Доме ўрада ў Мінску адбылася пашыраная рабочая нарада пры Камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу. У рабоце нарады прынялі ўдзел кіраўнікі рэстаўрацыйных арганізацый краіны, адказныя работнікі Міністэрстваў эканомікі, фінансаў і культуры. У парадку дня нарады стаяла адно пытанне, абмеркаванне якога, па сутнасці, і паказала сапраўдны стан аднаўлення гістарычных помнікаў на Беларусі: "Аб выкарыстанні выдзеленых бюджэтных сродкаў на аб'ектах рэстаўрацыі рэспублікі і мерах па выкананню планавых заданняў 1997 года". Нарада прайшла пад старшынствам Уладзіміра Плецюхова, старшыні Камісіі, і ягонага намесніка Мікалая Шаўцова.

Па зразумелых прычынах стан рэстаўрацыйных работ не абмяркоўваўся на такім высокім узроўні паўтара года. За гэты час праблемаў не паменшала, але на месцах, у абласцях, яны вырашаліся па-рознаму, у адпаведнасці з прафесійнымі якасцям кіраўнікоў мясцовых рэстаўрацыйных арганізацый. Гэта вынікала і з даклада Васіля Буканя, старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў Міністэрства культуры, і з выступленняў у спрэчках кіраўнікоў абласных упраўленняў. Сп.Букань адзначыў як лепшых Віцебскую, Брэсцкую, Мінскую вобласці. Слабыя паказчыкі па рэстаўрацыі ў Гродзенскай вобласці, толькі пачынаецца выпраўленне спраў у Гомельскай. Зусім дрэнна — у Магілёўскай вобласці, Камітэт быў нават вымушаны прыняць строгія адміністрацыйныя меры да кіраўніцтва "Магілёўрэстаўрацыі". Адзначана, што, нягледзячы недахоп сродкаў, Мінфін ажыццяўляе фінансаванне работ дакладна і ў адпаведнасці з бюджэтам.

Між тым выступоўцы ў спрэчках адзначылі, што ў галіне рэстаўрацыі паўсталі іншыя сур'ёзныя праблемы. У выніку малога аб'ёму вылучаных сродкаў з галіны зыходзяць каштоўныя спецыялісты, якія рыхтаваліся некалькі гадоў ці нават дзесяцігоддзяў. Кадры губляюцца беззваротна, бо, каб працаваць у рэстаўрацыі, мала быць проста будаўніком ці рамеснікам. Прыходзіць у занялад матэрыяльна-тэхнічная база рэстаўрацыйных арганізацый; чым далей, тым больш будзе патрэбна сродкаў, каб давесці яе стан да рабочага ўзроўню. Вельмі востра стаіць пытанне аб праектных работах. Некаторыя з арганізацый амаль не маюць "задзелаў" праектаў. Гэта значыць, калі нават будуць сродкі, працаваць яны не змогуць. Што да сродкаў, то тыя з кіраўнікоў, хто здолеў знайсці магчымасці пазабюджэтнага фінансавання, або за кошт арэнды, або іншым спосабам, цяпер маюць сапраўдныя поспехі і ўпэўненасць у добрых выніках працы ў будучыні. І цалкам слушна прагучала заўвага сп. Зміцера Бубноўскага, старшыні Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры: "Танная рэстаўрацыя — гэта сапсаваныя каштоўнасці!"

Па выніках даклада, абмеркаванняў і прапаноў была прынята пастанова.

**Ігар КЛОКАЎ**

***ПАСТАНОВА***

*Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*

***"Аб некаторых мерах па далейшаму ўдасканальванню і развіццю рэстаўрацыйнай галіны ў рэспубліцы"***

*(скарочана)*

*"1. Лічыць рэстаўрацыйную галіну ў рэспубліцы адным з прыярытэтных накірункаў у дзейнасці Камісіі...*

*Кіраўніцтву Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў (В.В.Букань) пастаянна інфармаваць Камісію аб стане і развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы ..., замацаванні на месцах кадраў рэстаўрацыйнай галіны, іншых перспектыўных накірунках, найбольш складаных і невырашальных праблемах у рабоце рэстаўратараў.*

*2. Прасіць Міністэрства эканомікі і Міністэрства фінансаў ... пры фарміраванні рэспубліканскага бюджэту на наступныя гады паволічыць выдзяленне аб'ёмаў сродкаў на рэстаўрацыю і кансервацыю помнікаў гісторыі і культуры.*

*3. ...Прасіць Гродзенскі і Магілёўскі аблвыканкамы аказаць практычную дапамогу рэстаўрацыйным арганізацыям па мабілізацыі іх кадраў на рытмічную работу...*

*4. ...Падтрымаць кіраўніцтва Камітэта ў пытаннях акцыяніравання дзяржаўнай уласнасці, раздзяржаўлення, прыватызацыі рэстаўрацыйных арганізацый...Рэкамендаваць кіраўніцтву Камітэта ўнесці ў Савет Міністраў прапановы аб новай*

Мясцовы супрацоўнік музея Соф'я Міцкевіч распавядае пра стыхію, пра незваротныя страты спадчыны. Асабліва шкадуе дрэвы, якія стаялі тут з часоў Коласа, — гэта пра іх ён пісаў у "Новай зямлі". З болем кажа пра разбураны унікальны мемарыяльна-мастацкі комплекс "Шлях Коласа", на ўзнаўленне якога запатрабуюцца немалыя грашовыя сродкі. Але ўзнавіць былую прыгажосць навакольных мясцін — немагчыма. Добра яшчэ, што захаваліся ўсе драўляныя скульптуры, зробленыя ў 1990 годзе творцамі, якія сабраліся з усіх куткоў Беларусі. Гэта працы Корабава, Супрунчака, Дзялендзіка і інш. Яны сваімі натхненнем і рукамі паспрабавалі данесці да нас дух "Новай зямлі".

Спадарыня Міцкевіч кажа, што як быццам сам Бог накрыў далонямі ўсе скульптуры — вакол нібы лесапавал, а яны цэлыя... Мы хацелі паглядзець на ацалелыя скульптуры, але не змаглі прадрацца праз буралом. Ды і супрацоўнікі музея папярэдзілі: лепш не хадзіце, бо раптам уздымецца вецер і вас можа заваліць.

Для музейнага комплексу гэтакія наступствы пасля навалы, натуральна, катастрафічныя. Напрыклад, цяпер на працягу пяці кіламетраў няма дарогі да турбазы "Высокі бераг". Больш за ўсё пацярпела экспазіцыя "Шлях Коласа" — на доўгі час мы пазбаўлены магчымасці хадзіць гэтым шляхам.

**Зміцер ВОЛКАЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*Кампетэнтнае меркаванне*

# "СЛАВЯНСКІ БАЗАР": ЭНТУЗІЯЗМ ПАЧАЎ СЦІХАЦЬ?

***10 — 16 ліпеня Віцебск чарговы раз прымае ўдзельнікаў і гасцей "Славянскага базару". Фестываль ужо даўно стаў традыцыйным і папулярным. Яго транслюе тэлебачанне 46 краін свету. Што нас, гледачоў, чакае сёлета, якія сюрпрызы нам падрыхтаваны, з якімі цяжкасцямі сутыкнуліся арганізатары? Наш суразмоўца — член журы фестывалю "Славянскі базар" паэт Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.***



**— Спадар Уладзімір, што нас чакае на сёлетнім фестывалі?**

— Традыцыйна праграма фестывалю вельмі насычаная. Акрамя выступленняў удзельнікаў з 17 краін — канцэрты і вечары гасцей, дзіцячы фестываль. Ад Беларусі ў фестывалі ўдзельнічаюць Марына Жолудзева, пераможца "Зорнай ростані", і салістка аркестра Міхаіла Фінберга Стэла, якая заняла на "Зорнай ростані" другое месца. У якасці гасцей Беларусь будуць прадстаўляць: студыя "Сябры", Аляксандр Саладуха, гурт "Палац", ансамбль "Чысты голас", ансамбль "Камерата". На працягу ўсяго фестывалю будзе выступаць Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.

**— Што адрознівае першыя і апошнія фестывалі?**

— З кожным разам у арганізатараў усё менш сродкаў на правядзенне фестывалю. Сродкі павінны складацца з узносаў Беларусі, Расіі, Украіны. У мінулым годзе Украіна грошай не ўнесла. Расія толькі частку сумы дала. Па сутнасці, увесь гэты груз кладзецца на плечы Беларусі. Гэта негатыўны бок. А з другога, станоўчага боку, фестываль набывае ўсё большую папулярнасць і дае магчымасць нашым выканаўцам стаць вядомымі і за межамі краіны.

**— Беларусь як арганізатар мае права выстаўляць на фестываль трох удзельнікаў, мы выстаўляем толькі двух, а ў мінулым годзе ад Беларусі была толькі адна канкурсантка. Чаму так сталася?**

— Атрымалася так таму, што не маглі дамовіцца, хто паедзе. Першым удзельнікам аўтаматычна становіцца пераможца "Зорнай ростані". А наконт іншых трэба было паклапаціцца, сабраць магчымых кандыдатаў, праслухаць, выбраць... Трэба было адпаведным людзям сабрацца ў адпаведным месцы і зрабіць нейкую работу, патраціць на гэта час. Відаць, у іх не было на гэта жадання.

**— У якім стане у Беларусі шоу-бізнес?**

— Яго ў нас пакуль проста няма і на цяперашні момант не можа быць. Яго не хочуць — значна прасцей, каб было так, як ёсць: загадалі — спевакі паехалі і паспявалі.

**— А ў перспектыве?**

— Зразумела, што ён з'явіцца. Нехта падыме гэтыя грошы, яны не могуць проста так ляжаць на дарозе. Але ці наш, беларускі гэта будзе шоу-бізнес? Хутчэй за ўсё ён будзе наплыўны, іншародны.

Вельмі шкада, што складваецца такая сітуацыя. Летась нашай канкурсантцы на "Славянскім базары" не хапіла аднаго бала, каб заняць трэцяе месца. Але і чацвёртае на такім значным фестывалі вельмі прэстыжнае. І што?.. Праспявала, папляскалі і — паехала дамоў, усё скончылася. У нас няма такой завядзёнкі, каб падтрымліваць таленты.

**— Які беларускі гурт або выканаўца Вам падабаецца?**

— Мне падабаецца "Палац", таму што ён прарваўся праз "Песняроў", "Сяброў", "Верасы". Па сутнасці, амаль усе нашы вядомыя салісты мелі дачыненне хоць да аднаго з гэтых калектываў.

**— Якія перспектывы ў "Славянскага базару"?**

— Спадзяюся, што добрыя. Але з нашага боку энтузіязм пачаў неяк сціхаць. Баюся, каб не паспрабавалі перацягнуць фестываль у тую ж Расію.

**— На чым або на кім трымаецца наша эстрада?**

— На людзях-энтузіястах, такіх як Міхаіл Фінберг, Васіль Раінчык. Любое значнае мерапрыемства — усюды Фінберг. А калі яму надакучыць і ён з'едзе куды-небудзь? Але гэта малаверагодна, таму што ён апантаны чалавек. Усё трымаецца на людзях, якія не могуць без гэтага жыць, не могуць мірыцца з тым, што ёсць. Але да якога часу гэта будзе працягвацца?

**— Дзякуй за размову.**

**Міхась БАШУРА**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ШТО МАЕМ

*структуры ... Камітэта...*

*5. Рэкамендаваць Міністэрству культуры ... унесці ў Парламент ... змяненні і дапаўненні ў Законы ..."Аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны", 'Аб культуры", а таксама "Аб уласнасці"...*

*6. ...Увайсці з хадайніцтвам перад Урадам ... наконт перагляду і адмены дзеючага парадку амартызацыі і зносу ..., на поўнае аднаўленне асноўных фондаў ... у той частцы, што амартызацыя не налічваецца па фільмафондах, музейных і мастацкіх вартасцях, сцэнічных, пастановачных сродках, будынках і збудаваннях, якія аднесены да помнікаў архітэктуры і мастацтва...*

*7. У мэтах індэксацыі бюджэтных асігнаванняў ... рэкамендаваць Камітэту ўнесці свае прапановы ў Міністэрства фінансаў ...*

*8. Рэкамендаваць Міністэрству культуры ... прыступіць да распрацоўкі мерапрыемстваў, накіраваных на прыцягненне пазабюджэтных сродкаў на справы рэстаўрацыі...*

*9. Падтрымаць намаганні Камітэта па яго ўвазе да функцыянальнага прыстасавання аб'ектаў рэстаўрацыі...*

*Прасіць Міністэрства культуры ўвайсці з хадайніцтвам ва Урад .. аб уключэнні ў план рэстаўрацыі новых аб'ектаў...*

*10. Рэкамендаваць абласным выканкамам ... стварыць пастаянна дзеючыя каардынацыйныя саветы па ахове гісторыка-культурных каштоўнасцяў пад кіраўніцтвам старшынь аблвыканкамаў.*

*11. Інфармацыю аб выкананні данай пастановы прадставіць Камісіі Палаты прадстаўнікоў у канцы снежня 1997 года.*

***Намеснік старшыні камісіі М.М. Шаўцоў."***

***"Дадатак: Некаторыя даныя аб помніках культуры — аб'ектах рэстаўрацыі ў Беларусі па стану на 1.05.97 г.***

*1. Усяго ў краіне на дзяржаўным уліку знаходзяцца больш за 14 тысяч нерухомых гісторыка-культурных каштоўнасцяў (помнікаў), болей за палову якіх знаходзяцца ў аварыйным ці нездавальняючым стане і патрабуюць па меншай меры выканання кансервацыйных работ.*

*2. Аб'ём фінансавання рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ на 1996 год склаў 22,9 мільярда руб., на 1997 — 25 мільярдаў руб.*

*3. У 1996 годзе вяліся работы на 43 аб'ектах, у 1997 — уключаны ў план 46 аб'ектаў рэстаўрацыі.*

*4. Асобныя аб'екты знаходзяцца ў стане рэстаўрацыйных работ каля ці нават больш за 10 год, напрыклад Замак 14 стагоддзя ў Лідзе (з1977), Палац Пацёмкіна ў Крычаве (з1988), Стары Замак у Гродне (з1977)...*

*5. Слаба асвойваюцца сродкі на аддаленых ад абласных цэнтраў аб'ектах:*

*у Брэсцкай вобласці — Пакроўская царква ў в.Крывошын;*

*у Віцебскай — сядзіба Бішэўскага ў г.п.Лынтупы;*

*у Гомельскай — Езуіцкі калегіум у в.Юравічы;*

*у Гродзенскай — сядзіба Агінскага ў Залессі;*

*у Мінскай — сядзібны комплекс у в.Альшэва;*

*у Магілёўскай — Успенскі касцёл, Езуіцкі калегіум, гімназія у Мсціславе, Палац Пацёмкіна ў Крычаве..."*

*З месца падзеі*

# "НАВОШТА Ж КРЭСЛЫ ПСАВАЦЬ?.."

***На жаль, мы ўжо пачынаем прызвычайвацца да таго, да чаго, паводле ўсіх законаў чалавечай прыроды, прызвычаіцца нельга. Прызвычайваемся да рэгулярных паведамленняў пра рабаванні і гвалт, забойствы і рэкет, хабарніцтва і карупцыю. Прызвычайваемся да таго, што "невядомыя асобы" рабуюць могілкі і здзекуюцца з праваслаўных храмаў. Здараліся выпадкі, калі рабаваліся і творчыя майстэрні мастакоў, каб атрымаць "прыбытак" ад жабракоў-творцаў.***

***Але тое, што адбылося з майстэрняй народнага мастака СССР, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Расійскай акадэміі мастацтваў Міхаіла Савіцкага, логіцы не падпарадкоўваецца.***

***І пачалося гэта не ўчора. Упершыню вокны акадэмічнай творчай майстэрні мастака, што знаходзіцца па вуліцы Някрасава, "невядомыя асобы" атакавалі яшчэ напрыканцы мінулага года, выкарыстаўшы ўлюбёную зброю пралетарыяту — камяні.***

***Другі раз Міхаіла Андрэевіча "павіншавалі" ў лютым 97-га з нагоды юбілею, якраз напярэдадні ўручэння яму Прэзідэнтам краіны ордэна імя Францішка Скарыны. Я бачыў гэты "памятны" камень, што наскрозь прабіў падвоенае, 6-міліметровае шкло...***

***І вось цяпер — зноў. Зноў Міхаіл Савіцкі атрымаў чарговае "віншаванне". На гэты раз "падарункі" даслалі "ад усяе душы": пацярпелі адразу тры вялізныя акны ў майстэрні. Як і раней, у майстэрні засталіся "рэчавыя доказы" — камяні ды цагліны...***



**— Міхаіл Андрэевіч, калі і як гэта здарылася?**

— Здарылася гэта а трэцяй гадзіне ночы 30 чэрвеня. Вартаўнік, пачуўшы звон разбітага шкла, выбег на вуліцу, але толькі ўдалечыні заўважыў сілуэты ўцекачоў...

**— І якія ў Вас меркаванні з гэтай нагоды?**

— Што я магу думаць? Перакананы, што гэта не простыя вулічныя хуліганы. Хутчэй за ўсё гэта тыя, каму я "не падабаюся". Можа, хтосьці лічыць, што я займаюся "не той" палітыкай. Лухта, навошта мне гэтая палітыка? Я — мастак! Мітынгі і дэманстрацыі не наведваю, нікога не агітую, ніякіх дзеянняў супраць кагосьці не прадпрымаю. Проста я маю свой асабісты, прычым глыбока выпакутаваны пункт погляду на тыя або іншыя пытанні. Што, я не маю права на ўласныя меркаванні?

**— Натуральна. Калі чалавек не мае свайго гледзішча — ён перастае быць асобай. Тым не менш каму гэта патрэбна — разбураць майстэрні? Ніяк не магу зразумець сэнсу гэтых акцый... Што Вы зрабілі ў сувязі з гэтым?**

— Тое, што і раней. Выклікаў міліцыю. Напісаў заяву з просьбай "спагнаць страты" з невядомых асобаў: гэта прыкладна 20 мільёнаў рублёў. Апрача гэтага, трэба аплаціць тэхніку — машыну-"вышку" для ўсталявання новага шкла, бо кожная гадзіна яе працы каштуе паўмільёна рублёў... Спадзяюся, што горад дапаможа...

**— І якія ж можна зрабіць высновы?**

— Высновы? Наступныя: наша культура "квітнее". Гэта ж трэба! А трэцяй гадзіне ночы не паленавацца прыйсці сюды, каб атакаваць ні ў чым не вінаватыя вокны! Так, Аляксандр Македонскі быў вялікі ваеначальнік, але навошта ж крэслы псаваць? Традыцыі "варашылаўскіх стралкоў" на Беларусі працягваюць жыць на высокім узроўні...

**— Мабыць, гэта былі людзі з таго племені, што крадуць жывыя кветкі з магіл?**

— Не! Там крадуць дзеля таго, каб, прадаўшы кветкі, набыць сабе ці то бохан хлеба, ці то пляшку гарэлкі. А тут іншае — з гэтымі людзьмі трэба абыходзіцца проста, згодна са старадаўнім законам: знайсці і публічна адлупцаваць...

**— Ці не хацелі б Вы зірнуць ім у вочы?**

— А што я там пабачу? Гэта нават не вочы жывёлы, бо ў жывёлы вочы асэнсаваныя. А тут — пустэльня. З такім жа поспехам можна ўтаропіцца ў шкляны шарык... Інакш кажучы, усё гэтае дзеянне з вокнамі цалкам прадэманстравала "інтэлектуальны" ўзровень беларускай апазіцыі... Тыя, хто займаецца падобнымі справамі, відавочна засведчылі, што станецца з нашай нацыяй, калі знявага творцы не будзе ўспрымацца як знявага ўсяму грамадству.

**Барыс КРЭПАК**

***Ад рэдакцыі:***

*Ці маюць дачыненне тыя або іншыя асобы да хуліганскай выхадкі, можа вызначыць суд. І толькі суд. А дагэтуль дзейнічае закон прэзумпцыі невінаватасці. У даным жа выпадку нас хвалюе мярзотнасць ўчынку чалавека,хто б ён ні быў: вулічны хуліган-люмпен або шызафрэнік, "апазіцыянер" або элементарны зайздроснік, нечым пакрыўджаны былы студэнт Міхаіла Андрэевіча або проста які-небудзь калега-нядобразычлівец...*

*Нам зразумела адно: вандалізм у любых ягоных формах і праявах разбурае не толькі духоўныя асновы цывілізаванага грамадства цалкам, але і кожнага чалавека паасобку. І з гэтым трэба змагацца ўсім разам...*

П
ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ
ЧЭРВЕНЬ — ЛІПЕНЬ
СІТУАЦЫЯ

# ЛІПЕНЬ: ШТО АДБУДЗЕЦЦА?



## ПАЛАЦ МАСТАЦТВАЎ

**З 4 ліпеня** — выстава "Мастакі — гораду", прысвечаная 930-годдзю Мінска. У экспазіцыі прадстаўлены практычна новыя творы жывапісу, графікі і скульптуры. Сярод удзельнікаў — вядомыя мастакі Леанід Дударэнка, Георгій Лойка, Сямён Герус, Уладзімір Ткачоў, Кацярына Паплаўская і іншыя. Гледачы з задавальненнем яшчэ раз пабачаць і выдатную серыю афортаў "Мой Мінск" таленавітага графіка Леаніда Марчанкі, які так рана пайшоў з жыцця.

**8 ліпеня** адбудзецца прэзентацыя выставы твораў Юрыя Багушэвіча і Генадзя Жарына. Такая садружнасць двух беларускіх мастакоў не выпадковая. Абодва яны — выхаванцы аддзялення манументальна-дэкаратыўнага жывапісу Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, абодва адначасова ўступілі ў самастойнае творчае жыццё, абодва працуюць у адных і тых жа відах мастацтва — у манументальным і станковым жывапісе і ў графіцы. Некаторыя буйныя творы яны выконвалі разам, у тым ліку аформілі кафляй калоны перонный залы станцыі "Плошча Якуба Коласа" Мінскага метрапалітэна, надаўшы ўсяму інтэр'еру нацыянальны характар; вітражы "Хлеб Радзіме" ў фае Палаца культуры саўгаса "Рогінь" Буда-Кашалёўскага раёна; роспіс "Мінск — горад-герой" у будынку былога Мінскага гаркама КПБ.

Я ўжо не кажу пра тое, што абодва ў свой час актыўна займаліся грамадскай дзейнасцю, мелі адказныя пасады ў Беларускім саюзе мастакоў.

У экспазіцыі будуць прадстаўлены фатаграфіі, кардоны, эскізы і фрагменты як гэтых твораў, так і іншых, выкананых кожным з іх самастойна або з іншымі сааўтарамі. Гэта — эскізы мазаічных тарцоў будынка Брэсцкага электрамеханічнага завода (Ю.Багушэвіч, У.Крываблоцкі), роспіс "Песня пра Беларусь" Ю.Багушэвіча ў Палацы культуры тарфянікаў ў пасёлку Праўдзінскі Пухавіцкага раёна і ягоны ж кардон вітража "Музы на Парнасе" для Дома творчасці беларускіх пісьменнікаў; вітражы "Пераўтварэнне энергіі" (Г.Жарын, В.Даўгала) у чытальнай зале Палаца культуры энергетыкаў Новалукомля і іншыя.

Шырока будзе паказаны і станковы жывапіс мастакоў, дзе асабліва хацелася б адзначыць карціны Г.Жарына "Габеленшчыцы", "Вечар у вёсцы" і "Слова пра родную зямлю" і энкаўстыкі Ю.Багушэвіча "Жніво", "Цёплая ноч", "Юнацтва нашых бацькоў". Апрача гэтага, Юрый Багушэвіч пакажа свае арыгінальныя эмалі і графіку, прысвечаную біблейскім тэмам, Чарнобылю, а таксама партрэты, выкананыя акварэллю і алоўкам.

Што яшчэ звязвае гэтых двух мастакоў? Без сумнення, любоў да роднай беларускай зямлі, высокі прафесіяналізм, цудоўнае веданне тэхналагічных сакрэтаў усіх відаў манументальнага мастацтва і проста чалавечая сардэчнасць ва ўзаемаадносінах з людзьмі.



Ю.Багушэвіч. "Да марозу". Палатно, алей.

**З 10 ліпеня** — выстава твораў выдатнага беларускага скульптара, народнага мастака Беларусі Анатоля Анікейчыка, прысвечаная 65-годдзю з дня нараджэння. У экспазіцыі будуць прадстаўлены яго станковыя скульптурныя кампазіцыі і партрэты, фотарэпрадукцыі шырока вядомых помнікаў і мемарыялаў. Гледачы змогуць пазнаёміцца і з раздзелам дакументальных фатаграфій, прысвечаных жыццю гэтага цудоўнага чалавека, творцы, педагога і грамадзяніна.

... Незадоўга да скону, у канцы 1988 года, Анатоль Аляксандравіч сказаў мне: "Кожным творам мастак робіць сваю біяграфію, таму нічога нельга рабіць, не даводзячы працу да канца. Супакойвацца можна толькі тады, калі ты вычарпаў усе свае магчымасці".

А.Анікейчык не вычарпаў сваіх творчых, чалавечых магчымасцяў. Ён заўчасна пайшоў з жыцця, пакінуўшы нязздзейсненымі і праекты помнікаў, і задумы новых кампазіцый, партрэтаў. Апошнія месяцы жыцця ён разважаў над помнікам Кастусю Каліноўскаму, паспеў зрабіць нават чарнавы эскізны праект, раздумваў над мемарыялам у Курапатах, усё часцей пагаворваў пра сваю персанальную выставу...

Карацей, планаў і спадзяванняў было шмат, і гэта натуральна: ён, як ніколі, адчуваў у сабе вялікі творчы запал. Здавалася, яго хопіць на ўсё... І на мастацтва, і на працу ў інстытуце, і на дэпутацкія справы, і на грамадскую дзейнасць, і на дыскусіі з аднадумцамі-сябрамі і апанентамі, і на сустрэчы з гледачамі, якіх у яго было мноства. Але яго не хапіла на ўсё. Не вытрымала сэрца...

Аднак я думаю, што на сваёй персанальнай выставе ён будзе разам з намі, будзе нябачна, разам з творамі, якім ён аддаў усё, што атрымаў ад Бога...



Р.Барадулін і А.Анікейчык.



А.Анікейчык. "Ганна Ахматава".

**З 15 ліпеня** — выстава жывапісу Сяргея Давідовіча.

**З 23 ліпеня** — выстава твораў гомельскага жывапісца Станіслава Дзьяканава, прысвечаная 65-годдзю з дня нараджэння мастака.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

**З 10 ліпеня** — выстава твораў вядомых беларускіх мастакоў Аляксандра Шастакова і Валерыя Шкарубы.

**З 14 ліпеня** — юбілейная выстава керамікі Віктара Гаўрылава.

**З 18 ліпеня** — выстава твораў кітайскага мастака Хуанга Куанд Нана.

## ГАЛЕРЭЯ "МАСТАЦТВА" БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МАСТАКОЎ

Працягвае працаваць выстава твораў Уладзіміра Гладкевіча. Дзесяць гадоў таму Уладзімір скончыў аддзяленне графікі Беларускай акадэміі мастацтваў. Цяпер ён дацэнт кафедры ў гэтай жа навучальнай установе. Пасляхова працуе ў станковай і кніжнай графіцы. Творы мастака экспанаваліся на Беларусі, у Польшчы, Расіі, Францыі. Лепшыя ягоныя творы — цыкл "Уражанні" (афорт), "Перасякаю парк дзённай парою" і "Вільчыкавыя метамарфозы" (каляровы афорт), "Хворыя яблокі", "Інтэрпрэтацыя ў духу рэнесансавага гуманізму", "Стварэнне", "Балада пра паветранага змея" (усё — мецца-тынта), "Метамарфоза" (палатно, алей) і іншыя напоўнены філасофскімі развагамі пра акаляючы свет, своеасаблівай сімволікай і вобразнымі абагульненнямі, віртуозным валоданнем тэхнікай друкаванай графікі.

У экспазіцыі прадстаўлена толькі невялікая частка творчых пошукаў мастака, але і па ёй можна яскрава ўявіць сабе плённы шлях ягонага далейшага развіцця.



У.Гладкевіч. "Метамарфоза". Палатно, алей.

## ПОЛАЦК

**28 ліпеня** адкрываецца Першы Рэспубліканскі пленэр імя вядомага беларускага і рускага мастака XIX стагоддзя, акадэміка жывапісу Івана Хруцкага, ураджэнца вёскі Ула, што на Бешанкоўшчыне. Пленэр наладжаны Віцебскім аблвыканкамам, Міністэрствам культуры Беларусі і Віцебскай арганізацыяй Беларускага саюза мастакоў.

У двухтыднёвым пленэры возьмуць удзел больш за 20 вядомых мастакоў краіны. У жніўні мяркуецца ўсталяваць на месцы пахавання І.Хруцкага, у вёсцы Захарнічы Полацкага раёна, надмагільны помнік (аўтар — Аляксандр Гвоздзікаў).

Адзначым, што летась на Расоншчыне таксама быў праведзены пленэр імя Івана Хруцкага з удзелам мастакоў Віцебшчыны. Тады ж у цэнтры Полацка, на будынку Дзіцячай мастацкай школы, была ўсталявана мемарыяльная дошка мастаку паводле праекта студэнта Беларускай акадэміі мастацтваў Аляксандра Шапо. Магчыма, што неўзабаве гэтай школе будзе нададзена імя нашага слыннага земляка, бліскучага майстра нацюрморта, партрэта і пейзажа.

Пасля заканчэння пленэру адбудуцца справаздачныя выставы ягоных удзельнікаў у Полацку і Віцебску, а шэраг лепшых твораў будзе перададзены ў якасці падарункаў музеям Віцебска і карцінным галерэям Бешанковіцкага і Полацкага раёнаў.



У.Іваноў. "Полацк — сведка стагоддзяў". Акварэль.

## ПІНСК

Прыблізна ў гэты ж час у Пінску будзе працаваць Міжнародны пленэр жывапісу, прысвечаны 900-годдзю гэтага слаўтага горада. На пленэр запрошаны як беларускія мастакі, так і госці з Расіі, Польшчы, Украіны і Літвы. Арганізатары пленэру — Упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама і камбінат "Мастацтва" Брэсцкай арганізацыі Беларускага саюза мастакоў.

## БАБРУЙСК

**З 27 чэрвеня** — у Выставачнай зале выстава твораў народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага. У экспазіцыі — каля сарака твораў жывапісу, акварэлі і эстампа.

**Тут жа 9 ліпеня** адбудзецца вернісаж выставы "Касмічнае і зямное братэрства", у якой возьмуць удзел Георгій Паплаўскі, народны мастак СССР Андрэй Сакалоў, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Іван Міско і касманаўт-мастак Уладзімір Джанібекаў.

**Аўтар "Мастыхіна" Барыс КРЭПАК**

# "НА БЕЛАРУСІ Я НІКОЛІ НЕ ПАЧУВАЎСЯ ЧУЖЫМ..."

***14 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрываецца выстава твораў Віктара ГАЎРЫЛАВА, прысвечаная ягонаму 70-гадоваму юбілею. У сувязі з гэтай падзеяй наш карэспандэнт узяў у мастака інтэрв'ю.***

**— Віктар Георгіевіч, што будзе ўяўляць сабою экспазіцыя тваёй выставы?**

— Гэта нібыта мая творчая справаздача за 40 гадоў. У склад экспазіцыі ўвойдуць творы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў, музея Мінскага парцэлянавага завода, а таксама новыя творы з маёй майстэрні, усяго каля ста твораў...

**— У асноўным гэта будзе кераміка?**

— Так. Маёліка і шамот, парцэляна і фаянс, шкло, крышталь. Гэта — рознага кшталту побытавы посуд, вялікія вазы, што ставяцца на падлогу, вазы для кветак, дэкаратыўныя тэматычныя паўміскі, гарбатнікі-тройкі (за адзін з такіх вырабаў я атрымаў прэмію на міжнароднай выставе керамікі ў італьянскім горадзе Фаэнцы), дэкаратыўная ляпная скульптура, эксперыментальны роспіс на керамічнай кафлі і г.д. Тэмы самыя розныя: ад памяці аб Вялікай Айчыннай вайне да лірычных пейзажаў, ад вобразаў беларускіх народных песень да гістарычных і анімалістычных сюжэтаў. Такім чынам, усе перыяды майго жыцця так ці інакш адлюстраваныя ў маёй творчасці...

**— Распавядзі пра свой шлях у вялікае мастацтва.**

— У 44-м я пайшоў у войска. Быў у запасных палках, служыў у Кёнігсбергу. Службу скончыў у Львове. Пазней там жа скончыў аддзяленне керамікі Інстытута ўжытковага і дэкаратыўнага мастацтва...

**— Так, гэта знакаміты інстытут... І з кім ты вучыўся?**

— З Гаўрылам Вашчанкам, Аляксандрам Кішчанкам, Леанідам Багданавым, Валерыем Леантовічам, Аляксеем Федусём. А маімі педагогамі былі Тарас Паражняк, Міхаіл Бяляеў, Ангеліна Бельцюкова — усе яны сёння вядомыя беларускія мастакі.

**— А як ты трапіў у Беларусь?**

— На пачатку 60-х тагачасны рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Павел Масленікаў запрасіў Бяляева дапамагчы паставіць новянароджаную ВНУ на "ўжытковыя рэйкі", бо сваіх спецыялістаў па ўжытковым мастацтве не было. Разам з Міхаілам Веніямінавічам у Мінск прыехала і група іншых мастакоў. У той час набіраў моцы і Мінскі парцэлянавы завод, куды мяне запрасілі на пасаду галоўнага мастака на кантрактнай аснове...

**— Што гэта значыць?**

— Я павінен быў на працягу двух месяцаў сабраць спецыялістаў і наладзіць тэхналагічны працэс, каб "запусціць" завод. Я гэта і зрабіў. Паралельна ў маскоўскай Строганаўцы я абараніў кандыдацкую дысертацыю па праблемах народнага мастацтва Заходняй Украіны, што дало мне пазней штуршок да глыбокага вывучэння народнай беларускай творчасці. У 67-м стаў выкладчыкам БДТМІ, а праз тры гады — дацэнтам кафедры інтэр'ера і абсталявання...

**— А дзе ты цяпер працуеш?**

— Там жа, у Беларускай акадэміі мастацтваў. Апрача таго — у Мастацкім ліцэі пры Акадэміі, дзе чатыры гады таму арганізаваў аддзяленне керамікі для падрыхтоўкі сярэдняга звяна маладых спецыялістаў-тэхнолагаў.

**— Які перыяд свайго жыцця ты лічыш лепшым?**

— 60-я гады, калі браў асабісты ўдзел у станаўленні новага мастацтва, звязанага з адраджэннем Мінскага парцэлянавага завода, Івянецкай фабрыкі мастацкай керамікі і вышыўкі, з уздымам народных рамёстваў, са стварэннем дэкаратыўна-ўжытковага накірунку ў БДТМІ, з арганізацыяй творчай секцыі дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва ў Саюзе мастакоў Беларусі і г.д.

**— Якія са сваіх твораў ты лічыш найбольш удалымі?**

— Побытавы посуд. Наогул, лічу, што наша творчасць павінна прызначацца непасрэдна людзям. Сёння, на жаль, многія мастакі, паглыбляючыся ў элітарнае мастацтва, забываюцца на гэта, робяць рэчы больш, так бы мовіць, "для сябе", для выстаў...

**— А найменш удалымі?**

— Напэўна, гэта манументальна-дэкаратыўныя пано ў некаторых месцах Мінска...

**— Што для цябе значыць Беларусь?**

— Па нацыянальнасці я — рускі, мая мама — ураджэнка Смаленшчыны, я нарадзіўся на Украіне, але менавіта Беларусь лічу сваёй сапраўднай радзімай. Большага шчасця для сябе, чым на Беларусі, я нідзе не знайшоў. Тут я сустрэў цудоўных людзей, тут стаў мастаком і педагогам. Тут нарадзіліся мае нашчадкі... Карацей, на гэтай зямлі я ніколі не пачуваўся чужым. Я шмат атрымаў ад Беларусі і імкнуўся ўсё ёй аддаць...

**— А хто твае нашчадкі?**

— Дачка Тася — мастацтвазнаўца, эксперт Міністэрства культуры па адпраўцы мастацкіх каштоўнасцяў за мяжу; сын Юрый — інжынер па азеляненні; унучкі — Алена, студэнтка чацвёртага курса факультэта журналістыкі БДУ, Надзя і Света — займаюцца ў дзіцячым ансамблі "Зорачка"...

**— А ці ёсць у цябе які-небудзь дэвіз?**

— Дэвіз? Не ведаю... Мабыць, такі: "Хай жыве Любоў!" Любоў да чалавека, да жывёл, да прыроды, да ўсяго, што існуе на зямлі...

**— Дазволь, Віктар Георгіевіч, яшчэ раз павіншаваць цябе з юбілеем і пажадаць табе і тваёй выставе вялікага глядацкага прызнання.**

— Вялікі дзякуй.

**P.S.** Калектыў рэдакцыі "К" таксама сардэчна віншуе Віктара Георгіевіча з юбілейным Днём Нараджэння!

Віктар Гаўрылаў.



В.Гаўрылаў. "Любаша". Дэкаратыўны паўмісак.

# "НЕБА, ЗНОЙДЗЕНАЕ НА ЗЯМЛІ"



Н.Лебедзева. "Дабравест. Ферапонтава". Палатно, алей.

Менавіта так называецца адзін з твораў, якія былі прадстаўлены ў экспазіцыі "Адбітае святло". Выстава Ларысы Зарубінай і Наталлі Лебедзевай праходзіла ў Саюзе архітэктараў Беларусі. "Адна з многіх", "бачылі неаднойчы", — так думалася, калі ішоў туды. Але ўсё ж такі цікава было паглядзець, як архітэктар задавальняе свае амбіцыі вольнага мастака-творцы. Праходжу па вуліцы імя заснавальніка марксізму, што поўніцца зіхоткімі іншамаркамі і такімі ж бліскучымі, дзіўна падобнымі адзін да аднаго іхнімі гаспадарамі. Нарэшце, трапляю ў змрочныя ўладанні ўрачыстай цішыні.

Што ж, на выставе ёсць усё, што павінна быць: камерная, утульная зала, кніга ўзнёслых водгукаў і падзяк ад вучняў і прыхільнікаў таленту, мастацтвазнаўчая прэлюдыя-анатацыя. І, безумоўна, галоўнае — карціны. Убачанае спачатку прыемна ўразіла. А потым і цалкам захапіла. Гэтая выстава — не справаздача аб творчай працы, не спроба спадабацца публіцы і набыць сваю нішу на мастацкім рынку.

Архітэктурныя матывы аказаліся не проста майстэрняй для вывучэння старажытных помнікаў ("І я там быў!"), а разгорнутымі казанямі, развагамі пра нябачнае і адвечнае. Пейзажы выглядалі не адлюстраванымі прыемнымі краявідамі, што вабяць вока, а чароўнымі "спыненымі імгненнямі". Нацюрморты — не "мёртвай натурай", а ціхім жыццём.

"Выстава дэманструе, што казаць пра Бога магчыма, не згадваючы імя Яго", — чытаю ў кнізе водгукаў. Экспазіцыя насычана нябачным, але адчувальным духоўным святлом, што зыходзіць ад многіх палотнаў. Пошук гармоніі храма і чалавека — вось што хвалюе і натхняе аўтараў.

Тэма шляху да храма ўвасоблена і праграмна: гэта назва вялікага цыкла твораў Л.Зарубінай. Карціны гэтай серыі выклікаюць асаблівае адчуванне прысутнасці, спачування. Кожны з твораў і Н.Лебедзевай, і Л.Зарубінай нібыта звяртаецца да гледача з пытаннем: мы абіраем гэты шлях альбо ён — нас? Вось мы, стоячы на старажытных мурах Заслаўя, ахутаных снегам, апошні раз прыслухоўваемся да размовы сэрца і розуму свайго. Храм ужо побач. Нібыта свечка, узвышаецца Праабражэнская царква. Белая на бельм... Ці вартыя мы да яе наблізіцца? Ці патрэбныя мы там?

А вось мы ўжо перад брамай мінскай царквы Марыі Магдаліны. Яшчэ некалькі крокаў, і мы пераступім парог храма, дзённае святло ператворыцца ў "святло вечаровае" і сапраўднае. Яшчэ некалькі крокаў...

Хочацца верыць, што сустрэча з творамі Л.Зарубінай і Н.Лебедзевай дапаможа многім выйсці на светлы шлях, узняцца над шэрай будзённасцю ў іншую стыхію — у Неба, знойдзенае на зямлі.

**Генадзь ЛАЎРЭЦКІ, мастацтвазнаўца.**



Л.Зарубіна. З цыкла "Шлях да храма". Палатно, алей.

# СЕЗОН СКОНЧЫЦЦА НОВАЙ "ТРАВІЯТАЙ"

Прадчуваю здзіўленне нашых пастаянных гледачоў перад прэм'ернай афішай "Травіяты". Ці даўно яны бачылі гэтую оперу на сцэне тэатра, ці даўно чыталі пра наведанне нашага спектакля прэзідэнтам Бразіліі падчас гастроляў трупы ў Манаусе? Але ж беларуская опера справядліва лічыць сябе ў даўгу і перад гэтым оперным шэдэўрам, і перад сваёй публікай. Спектакль 1969 года на сёння цалкам з'амартызаваны і ўспрымаецца як канцэрт у бедных касцюмах пры ўбогім, пазбаўленым усялякага вобразнага сэнсу афармленні сцэны. Ад рэжысуры буйнога майстра Дзмітрыя Смоліча нічога не засталося. І калі публіка ўсё ж хадзіла і на такую "Травіяту", дык гэта сведчыла толькі пра яе нязменную любоў да оперы і да нашых саліставу. І гэта падштурхоўвала тэатр брацца за новую пастаноўку як мага хутчэй. І вось, нарэшце, новы спекатакль, што паступова высяляў спачатку ў галовах сваіх аўтараў, потым у майстэрнях мастакоў, у класах, рэпетыцыйных залах, цэхах мастацка-эксприментальнага камбіната, выйшаў на "фінішную прамую" і 17, 18 і 20 ліпеня ўбачыць святло рампы.

"Прыдумалі" новую "Травіяту" музычны кіраўнік пастаноўкі Аляксандр Анісімаў, рэжысёр Сусанна Цырук, сцэнограф Людміла Ганчарова і мастак па касцюмах Элеанора Грыгарук. У пастановачнай групе і галоўны хормайстар Ніна Ламановіч, дырыжоры Вячаслаў Чарнуха і Міхаіл Сінькевіч, балетмайстар Алена Дзмітрыева-Лаўрыновіч, мастак па асвятленні Сяргей Мартынаў.

Рэжысёр Сусанна Цырук, для якой "Травіята" — першы вялікі самастойны оперны спектакль на нашай сцэне, пагадзілася даць мне невялічкае інтэрв'ю.

**— Спадарыня Сусанна, па-першае, папытаю пра тое, што адразу кінулася ў вочы яшчэ падчас абмеркавання макета афармлення і эскізаў касцюмаў. Дзеянне новай "Травіяты" перасунута ад часу Дзюма-сына на канец мінулага стагоддзя. Вельмі багатыя, фантазійныя, вытанчаныя касцюмы яўна належаць да стылю мадэрн. Ці толькі дзеля дадатковых магчымасцяў для мастакоў робіцца зрух па часе?**

— Гэта таксама мае значэнне, але ж не галоўнае. Для нас важна, што на мяжы стагоддзяў у самім паветры лунае нешта такое, што прымушае людзей з трывогай чакаць глабальных перамен, катастроф — "канца свету". У такім апакаліптычным настроі людзі і весяліцца неяк асабліва: ліхаманкава, адчайна, з надрывам.

**— Адна з форм уцёкаў ад рэчаіснасці, "баль падчас чумы"...**

— Так, гэты вобраз тут да месца. У такім ключы мы вырашаем першую дзею і асабліва фінал другой — "Баляванне ў Флоры" (наша рабочая назва гэтай карціны — "каляровы карнавал", у адрозненне ад "чорнага карнавалу" апошняй дзеі).

**— Я бачыла сцэнічную рэпетыцыю: відовішча эфектнае, насычанае рухам, вельмі складаныя задачы вы прапануеце салістам і хору! Але ж ці не згубіцца Віялета ў гэтым стракатым, мітуслівым натоўпе?**

— Не. Якраз пакуты яе душы, яе псіхалогія нас цікавяць больш за ўсё. Сама гэтая ліхаманкавасць весялосці — адлюстраванне эмацыйнага стану Віялеты. Мяне вельмі ўразіла фраза літаратурнага прататыпу Віялеты, гераіні рамана Дзюма-сына "Дама з камеліямі": "Я ведаю, што жыць мне засталося мала, таму я павінна жыць хутка" (цытую па памяці, аднак сэнс такі).

**— Вы можаце адной фразай сказаць, пра што ваш спектакль?**

— Я проста хачу паставіць рамантычную гісторыю кахання без аніякіх сацыяльных акцэнтаў.

**— А якой рэакцыі вы чакаеце ад гледачоў?**

— Суперажывання і слёз напрыканцы!

У тым, ці зведае публіка сапраўднае ўзрушэнне на новай "Травіяце", вельмі многае залежыць ад выканаўцаў, перш-наперш ад нашых Віялет — Наталлі Кастэнка, Тамары Глаголевай, Вікторы Курбацкай, Алены Бундзелевай; Альфрэдаў — Аляксандра Тузлукова, Сяргея Франкоўскага, Сяргея Драбышэўскага, Рыгора Палішчука; Жэрмонаў-старэйшых — Аркадзя Саўчанкі, Юрыя Бастрыкава, Мікалая Майсеенкі.

**Алена САЛАМАХА**

# "ТАКІЯ АКЦЫІ ПАВІННЫ БЫЦЬ РЭГУЛЯРНЫМІ..."

5 ліпеня адбудзецца закрыццё І Міжнароднага пленэру па скульптуры памяці Анатоля Анікейчыка. Прафесійнае журы падвядзе вынікі месячнай працы маладых скульптараў, і гарадскі Парк скульптуры, што знаходзіцца ў Мінску, пры вуліцы Арлоўскай, упрыгожаць 14 твораў, выкананых у камені. І калі практычна



ўсе ўдзельнікі пленэру выказалі задаволенасць той творчай і чалавечай атмасферай, у якой ім давялося працаваць, дык арганізатары на гэты конт больш стрыманыя. Арганізацыйныя і фінансавыя цяжкасці, праблемы тэхнічнага забеспячэння, натуральна, адбіліся на працы. Абяцаныя грошы так і не трапілі на рахунак арганізатараў пленэру, у сувязі з чым давялося выкладваць пэўныя сумы з уласнай кішэні самім арганізатарам і іхнім сябрам. А гэта значыць — аплата гатэляў, стыпендый, транспарту, наведванне тэатраў, паездак ў Полацк, Мір і Нясвіж, харчавання і г.д.

"Мы не чакалі такога стаўлення з боку гарадскіх уладаў і Міністэрства культуры", — заявіў фундатар пленэру, дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства "Маладзёжны культурна-забаўляльны цэнтр" пры Міністэрстве культуры Беларусі Аляксандр Унукаў. — І, тым не менш, я перакананы, што такія акцыі павінны быць не аднаразовымі, а рэгулярнымі, што пленэры патрэбны не толькі гораду, але і самім мастакам, якія, набываючы прафесійны вопыт у атмасферы калектыўных стасункаў, робяцца духоўна і творча больш сталымі".

Так, сапраўды, паглядзеўшы іхнія творы, вельмі адрозныя паводле задумы і пластычнага выканання, пераконваешся: хлопцы цудоўна справіліся з камянямі, ператварыўшы іх ў высокамастацкія, філасофскія вобразы нашага часу...

**Барыс КРЭПАК**

*На здымках, зробленых* ***Генадзем ЖЫНКОВЫМ,*** *— апошнія штрыхі пленэру.*





# "КАПЯЛЮШ НАПАЛЕОНА" І ЗМЕНА СТАТУСА

На пачатку бягучага сезона ў тэатры адбылася прэм'ера аперэты Оскара Штрауса "Капялюш Напалеона", для пастаноўкі якой быў запрошаны Барыс Лагода — рэжысёр з Новасібірска. У свой час ён скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, але творчыя шляхі-дарогі завялі яго ў іншую рэспубліку. У Мінск ён прыехаў па запрашэнні — для пастаноўкі аднаго спектакля, а атрымалася так, што застаўся ў нашым тэатры на пастаянную работу. Другую сваю пастаноўку — "Цыганскі барон" Іагана Штрауса — ён здзейсніў ужо як галоўны рэжысёр тэатра.

Такім чынам, сёлетні тэатральны сезон і пачынаўся, і заканчваецца новымі спектаклямі ў пастаноўцы новага рэжысёра, што адразу прыцягнула ўвагу прыхільнікаў гэтага жанру. У рэпертуарнай афішы Тэатра музкамедыі ёсць нямала добрых спектакляў, пастаўленых вядомымі рэжысёрамі, але гэта ўсё пастаноўкі мінулых гадоў. А вядома ж, тэатру, таксама як і гледачу, неабходна пастаяннае абнаўленне рэпертуару.

"Капялюш Напалеона" — даволі рэдкая з'ява на музычнай сцэне. Калісьці гэты спектакль ставіўся ў Рыжскім тэатры музкамеды, і менавіта адтуль наш тэатр атрымаў нотны матэрыял гэтай аперэты. Усё тут адпавядае асноўным прынцыпам класічнай аперэты: і тэматыка, і адпаведны набор персанажаў, і характар пабудовы музычнай драматургіі і г.д. Але аперэта тым і цікавая, што, не выходзячы з зададзеных жанрам рамак, яна заўсёды мае эфект навізны і прыцягальнасці. Вядома, гэта ў значай ступені залежыць ад пастаноўшчыкаў і выканаўцаў. Разам з Барысам Лагодам над спектаклем працавалі музычны кіраўнік і дырыжор Аляксандр Сасноўскі, балетмайстар Ніна Дзьячэнка, хормайстар Тамара Гуліна, мастак Яўген Ждан. У спектаклі заняты лепшыя акцёры тэатра: Аляксей Ісаеў, Арнольд Ранцанц, Людміла Станевіч, Зінаіда Вяржбіцкая, Герман Казлоў, Аляксей Кузьмін, Анатоль Касецкі, Васіль Сердзюкоў і іншыя выканаўцы.

Гэты спектакль ужо ацанілі прыхільнікі аперэты, і цяпер у іх ёсць магчымасць параўнаць яго з новай работай Барыса Лагоды — з "Цыганскім баронам". У іх шмат агульнага. Па-першае, адна і тая ж пастановачная група і амаль той жа склад акцёраў. А па-другое, спектаклі блізкія па сваёй тэматыцы і эстэтыцы пастаноўкі. Але гэта не азначае, што рэжысёр у чымсьці паўтараецца ці пераносіць гатовыя штампы з аднаго спектакля ў другі. Проста ў абедзвюх пастаноўках праглядваюцца індывідуальныя рысы ягонага творчага стылю.

Спектакль "Цыганскі барон" Барыс Лагода паставіў як оперу, хоць традыцыйна ён лічыцца лірычнай аперэтай. У пастаноўшчыка заўсёды ёсць права творчага асэнсавання таго матэрыялу, над якім ён працуе, і права ўласнага бачання яго сцэнічнага ўвасаблення. А драматычнае развіццё вобразаў і буйныя музычныя пабудовы дазваляюць трактаваць гэты твор як оперу. Музыка гэтага спектакля заваражвае: высокі драматызм і пяшчотная лірыка, цудоўныя вальсавыя мелодыі, цыганскі хор... Нават толькі дзеля музыкі варта наведаць гэты спектакль — нездарма ж сучаснікі называлі Штрауса каралём вальса і князем аперэты.

Шмат паралеляў можна правадзіць паміж двума гэтымі спектаклямі. Звяртае на сябе ўвагу і іх сцэнаграфія. Мастак-пастаноўшчык Яўген Ждан — вельмі вопытны сцэнограф, ён шмат гадоў працаваў у оперным тэатры, аформіў дзесяткі спектакляў і свой багаты творчы вопыт і талент перанёс цяпер у Тэатр музкамеды. Гэта здараецца не часта, калі пры адкрыцці заслоны публіка апладзіруе рабоце мастака. Асабліва ўражвае яго сусперзаслона да спектакля "Цыганскі барон", на якой у вобразнай форме сканцэнтравана ўся тэматыка пастаноўкі.

Нельга таксама не сказаць пра ролю балета ў гэтых спектаклях — без яго яны не былі б такімі відовішчнымі. Гэта не толькі чыста балетныя нумары, такія, як, да прыкладу, "Карсіканскі танец" і "Цыганскія напевы", але і ўдзел артыстаў балета ў скразным дзеянні спектакля, што стварае яшчэ адзін вобразны рад.

У Тэатры музычнай камедыі былі і іншыя пастаноўкі, якія выходзілі за рамкі жанру. Напрыклад, італьянская камічная опера "Viva la mamma", дзіцячая опера "Гісторыя Кая і Герды", амерыканскі мюзікл "Хэло, Долі", мюзіклы беларускіх аўтараў — "Мельнерка" Яўгена Глебава і "Шклянка вады" Уладзіміра Кандрусевіча. З той прычыны, што ў тэатры доўгі час не было галоўнага рэжысёра, да пастаноўкі гэтых складаных спектакляў запрашаліся вядомыя пастаноўшчыкі з Санкт-Пецярбурга і Масквы.

Ужо даўно стала відавочным, што наш Тэатр музычнай камедыі можа не толькі паставіць любы спектакль у сваім жанры, але яму пад сілу практычна любы музычны спектакль: балет, опера, нават мюзікл. Таму ў апошні час перад творчым калектывам паўстала пытанне аб змене статуса тэатра, а дакладней, аб пераварэнні Дзяржаўнага тэатра музкамедыі ў Дзяржаўны музычны тэатр. Гэта не значыць, што з тэатра знікне аперэта — без яе музычны тэатр цяжка сабе ўявіць. Проста са зменай статуса тэатр зможа смела брацца за пастаноўкі ў любым музычным жанры, мюзікл і опера не будуць рэдкімі гасцямі ў рэпертуары тэатра, і ніхто не будзе папракаць, што, маўляў, музкамедыя займаецца не сваёй справай. Калі тэатр так вырас — яму трэба даць дарогу.

У вышэйшых кіраўнічых структурах гэтую ідэю падтрымалі, а ўлічваючы тое, што ў тэатра ёсць ужо галоўны рэжысёр, які сябе добра зарэкамендаваў, пытаннем аб змене статуса тэатра цяпер займаецца Савет Міністраў. І цалкам верагодна, што новы тэатральны сезон стане ў гісторыі тэатра пераломным.

**Зоя ЛЫСЕНКА**

ЧЭРВЕНЬ

ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:

А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

# ЛЕТНЯЯ НОЧКА, КУПАЛЬСКАЯ...







Старажытная філасофія сцвярджае, што ёсць чатыры формы існавання часу і што не час змяняецца вакол чалавека, а чалавецтва, эвалюцыянуючы, праходзіць скрозь кола часу. Мінуўшчына і будучыня існуюць аб'ектыўна, і чалавек пры пэўных умовах можа змяніць хуткасць свайго руху ў часе, напрыклад, пры пераходзе ў іншы прасторава-часавы кантыніум.

Летняе сонцастаянне з 23 па 24 чэрвеня з'яўляецца паваротным пунктам у руху Сонца. Менавіта ў гэтую ноч беларусы спрадвеку адзначалі адно са сваіх найвялікшых святаў — Купалле. Усё квітнела навокал, і ўсеагульнае хараство прыроды надавала гэтай пары асаблівую ўрачыстасць.

Беларусы верылі, што жыццё магчымае толькі пры супрацьстаянні Агню і Вады, маючы на ўвазе адзінства і супрацьлегласць мужчынскага і жаночага пачаткаў. Таму ў купальскую ноч людзі збіраюцца на ўзгорках і робяць вогнішчы, здабываючы агонь трэннем сухой драўніны аб вільготную або сухога каменя аб мокры. Агонь у старажытных сімвалізаваў племя, род, народ, дом. Гэта быў светлы пачатак, які ў цёмную купальскую ноч праганяў варожыя сілы начной цемры. Агонь паводле павер'яў, дапамагаў ачысціцца ад хвароб і сурокаў.

Сёлета на Купалле бог Пярун наслаў на нашу зямлю не проста навальніцу, а ўраган. У навальнічным полымі ён кіпяціў дажджавую ваду, купаў ёю неба і зямлю. Ураган зносіў дахі з хат, выварочваў і ламаў дрэвы, перакульваў машыны, але людзі, якія сабраліся ў гэтую ноч на ўзгорку ля возера Пціч, што непадалёк ад Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, не спалохаліся. Адначасова сабраўся народ і ля рэчкі ў вёсцы Вязынка, на радзіме Янкі Купалы. Маладыя і старыя сышліся разам, каб уславіць Перуна, які павяртаў сонечнае кола ў напрамку да зімы ды гасіў гарачыя сонечныя промні дажджом. Людзі на Купаллі сімвалічна гэтае дзеянне імітавалі скатваннем палаючага кола ў ваду, агонь якога злучаўся з вадой возера, і ў сакральным значэнні адбываўся эратычны акт, што прыносіць пладнасць зямлі. Свята Купалля — еднасць Сонца і Вады. Купала — куп — белы, чысты. Ярыла — яр — яркі, чырвоны, жывы. Жыццядайны Агонь у шлюбе з Вадою дае Жыццё. Таму, мабыць, і наш народ так шануе бела-чырвоную колеравую гаму. Таму і тыя, хто не забыўся яшчэ, што мы —беларусы, апрануліся ў белыя вышыванкі з чырвоным арнаментам. Зліліся ў адзін чысты голас спевы фальклорных гуртоў "Дзяньніца", "Госціца", дзяўчат і хлопцаў з "Рыцарскага ордэна", навучэнцаў мастацкай вучэльні імя Глебава, Беларускага гуманітарнага ліцэя, студэнтаў Беларускай акадэміі мастацтваў, БДУ і шмат каго яшчэ...

І адбыўся цуд: неба, што было цалкам зацягнута шэрымі нізкімі хмарамі, нібыта парвалася. У ім ўтварылася дзірка, і на ўзгорак, дзе сабраліся купальнікі, не пралілося за ўсю ноч ніводнай кроплі. Пэўна, гэта літасцівая багіня Жыва, якая ў гэтую ноч пераўтварылася ў Купалу, пачула спевы ў яе гонар і засланіла нас ад урагану і навальніцы, што злаваліся навокал...

**Валянціна ЯКІМОВІЧ,**
**супрацоўніца Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту.**
**Фота Уладзіміра ШЛАПАКА**

# ... ПЯТРОВА НОЧКА МАЛЕНЬКА

Адпалалі купальскія вогнішчы, адзвінелі купальскія песні. За іх бляскам і веліччу неяк засталося ў цені яшчэ адно вельмі цікавае народнае свята — дзень святых Пятра і Паўла, што адзначаецца праз пяць дзён пасля Купалля.

Здавалася б, сярэдзіна лета, аб восені яшчэ і думаць рана, але народная мудрасць нагадвае: "Прыйдзе Пятрок — адарве лісток". Кажуць, што першымі набліжэнне восені адчуваюць жабы — "Пятро сабраў жаб у вядро", ужо не пачуеш іх квакання. І зязюлі больш не пачуеш. Згодна з народнымі ўяўленнямі, зязюля на Пятра змаўкала, бо падавілася сырам альбо ячменным коласам. А на Палессі казалі, што абернецца зязюля каршуном і будзе лётаць бліз людскіх жытлаў. Вось і кувае зязюля "ад Вялікадня да Пятрочка, а пасля Пятрочка ні дзянёчка".

Дзень святога Пятра быў пераломным і для вясковых пастухоў, увесь дзень яны нічога не елі, каб ваўкі не душылі жывёлы, затое збіралі ім аднавяскоўцы так званую "пятроўшчыну" — плату за працу. Але што цікава: да Пятра пастухі мусілі не галіцца і не падстрыгацца, а так і хадзіць "кашлацікамі". Дзеці жартавалі:

*Пастух-шкарада, чарвівая барада,*
*Чаму бароды не голіш,*
*Чаму ў поле не гоніш?*

А вось гаспадыні на Пятра ў грады не ішлі, толькі позна, па захадзе сонца, адламвалі ад качана тры лісцінкі ды неслі ўкінуць іх у студню — каб не гніла капуста. Палескія жанчыны заламвалі жменьку лёну і закапвалі яе ў зямлю, замаўляючы гэтым урадлівасць. Набліжалася жніво. Пятроў дзень — разгон-дзень, што "разагнаў дзевачак з вулачкі, падаваў сярпочкі ў ручкі".

Па дні Пятра народныя знаўцы прадказвалі надвор'е ды ўраджай. "Калі на свята Пятра дождж, будзе жыта як хвошч", "Калі Пётра з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць". А надвор'я на Пятра чакалі толькі добрага, бо гэта гарачы час і ў працоўных адносінах — "Святы Пётра талаку збіраў копы сена вазіць, стагі складаць", "Хто ў Пятроўку сена не косіць, той зімой у сабак сена просіць".

Шмат прыказак пра гэты дзень склалі нашы продкі, і столькі ў іх мудрасці і паэзіі! Але каб зразумець асобныя, трэба многае ведаць з нашае гісторыі. Так, кажуць: "Пайшоў Пятрок без парток", і прычын таму некалькі. Па-першае, "Пятро з дуба ўпадзе" — скончыцца пост. "Пятроўка-галадоўка, калі стары хлеб паелі, а новага не нажалі". На Украіне жартавалі, што гэты пост прыдумалі вясковыя гаспадыні: яны ніяк не маглі нарыхтаваць тварагу ды масла, бо іх ласыя мужы ўсё пад'ядалі. Па-другое, дзень 29 ліпеня па старым стылі вылучаўся і ў быце грамадзянскім, бо служыў тэрмінам аплаты даніны і пошлін (існавала так званая "пятроўская даніна", ці пятроўскія паборы на карысць царквы), што часам даводзіла селяніна да галечы. І патрэцяе, як сведчыць Стоглаў, на Пятра хадзілі ў гаі "деяти зде бесовские потехи".

У беларускіх вёсках на Пятра дзяўчаты хадзілі ў лес развіваць вянкі, якія былі завітыя на Сёмуху. Радавала вока зеляніна сплеценых бярозавых вершалін, засохлыя ж галінкі не прадвяшчалі нічога добрага. Вечарына ж гэтая была чыста жаночая, у лесе, вакол вогнішчаў, з гарэлкай, блінамі і абавязковай яешняй. Безумоўна, гучалі песні. Калі выпадала зазірнуць на такую жаночую гулянку мужчыне, зрывалі з яго шапку і кідалі яе ў агонь.

Многія звычаі Пятра паўтаралі купальскія, асабліва рытуалы з агнём, вогнішчамі, што і зразумела, бо прыпадалі гэтыя святы на перыяд аднаго старажытнага шанавання сонцавароту.

А пятроўскія песні згадвалі нейкую дзіўную траву гарду, горду, і невядома, ці то гэта рэальная расліна, ці чароўнае зелле?..

*Да ў гародзе гардовіца,*
*Цяжка хлопцам*
*Пятровіца.*
*Ідзіце, хлопцы, гарду рваці,*
*Лягчэй будзе Пятра ждаці.*

*Тыпер Купала, взавтра Ян,*
*Пошлы дывочкы в зылёный*
*гай.*
*В зылёный гай горда рваты,*
*Каб трудно ворогам*
*Пытра ждаты (палес.).*

А яшчэ старыя людзі казалі так, "Да Пятра дзеўка хітра, а па Пятры — хоць твар ёй падатры". Бо быццам бы да Пятра дзяўчаты імкнуліся спадабацца хлопцам, каб хутчэй выйсці замуж. Калі ж намаганні не прыносілі поспеху, даводзілася чакаць наступнай пары сватанняў і вяселляў.

*Пятрова ночка маленька,*
*Не выспалася паненка,*
*Усю ноч не спала, сватоў*
*чакала...*

**Таццяна ВАЛОДЗІНА**

# ЯЎГЕН

Выдавецкая фірма "Паліфакт" і яе лідэр, публіцыст Яўген Будзінас, сваю вядомасць шыраць і дзякуючы, акрамя ўсяго іншага, многім культуралагічным праектам. Мода на ўдзел прыватнага капіталу ў падтрымцы нацыянальнай культуры спакваля праходзіць, выразна меншае. Прычына на тое зразумелая: ніякай палёгкі за сваю дабрачыннасць айчынны бізнес не атрымлівае. Болей таго: псіхалогія кантралёраў за падаткамі і "чэснасцю" "новых беларусаў" пабудавана такім чынам, што кантралёры лічаць, калі багаты чалавек аддае свае грошы на культуру, то значыць яму іх не шкада. А, маўляў, не шкадуюць толькі лёгка заробленага, украдзенага, калі хочаце. Вось і перакана违 многія патэнцыяльныя мецэнаты, што лепш не высоўвацца.

Яўген Будзінас ... высоўваецца. Як прыклад — незразумелая многім акулам улады і бізнесу яго дзейнасць па стварэнню музея матэрыяльнай культуры "Дудуткі". (Гэта ў Пухавіцкім раёне, паблізу вёскі Дудзічы.) Унікальны і адзіны для нашай краіны прыватны музей становіцца паціху турысцкай Меккай Беларусі. "Дудуткі" — і месца правядзення традыцыйных фэстаў старасвецкай культуры. Днямі адбыўся трэці па ліку (першы — у чэрвені 1995 года, у рамках Міжнароднай канферэнцыі "Музеефікацыя гістарычных тэрыторый").

Адметнасць свята на зямлі, авеянай памяццю асветнікаў Ельскіх, у тым, што ў дудзіцкую старонку прыязджаюць самыя розныя знакамітасці. Вось і сёлета госці на фэсце былі не звычайныя. Але спярша пра праграму свята. Адным з пачаткаў фэсту сталася падарожжа: "На старадаўніх



# "ВЯЛІКІ" РАСПАЧАЎСЯ З ЛІДЫ...



*Выступае ансамбль песні і танца імя М.К.Агінскага.*

У мінулыя выхадныя ў старажытнай Лідзе прайшоў Першы Рэспубліканскі фестываль ансамбляў песні і танца, які адначасова стаў першым мерапрыемствам Рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці, што будзе працягвацца да ліпеня 1998 года.

Ансамбль песні і танца як форма мастацтва народжаны ў савецкія часы. Толькі вялікая дзяржава з ідэалогіяй калектывізму магла дазволіць сабе утрымліваць калектывы, якія складаліся з дзесяткаў удзельнікаў, куды ўваходзілі і група выканаўцаў на музычных інструментах, і танцавальны гурт, і хор. Усяго колькасць выканаўцаў такога калектыву дасягае 70 — 80 чалавек, і нават проста перавезці іх для гастроляў можа стаць вялікай праблемай. Таму, на думку спецыялістаў, такія ансамблі сёння перажываюць, так бы мовіць, не толькі "крызіс жанру", калі іх актуальнасць быццам падае, а і матэрыяльныя нягоды, што ставяць іх на мяжу выжывання. А да таго варта дадаць, што слухачы наогул сёння аддаюць перавагу электронным носьбітам музыкі і асабліва не спяшаюцца ў глядзельныя залы. З іншага боку, такі ансамбль з'яўляецца унікальным прыкладам узаемадзеяння творчых асоб — тут павінны спалучацца не толькі танец, песня і музыка, але і работа кіраўніка гурта, харэографа, дырыжора, якія і ствараюць паліфанічны твор. На Гродзеншчыне такіх ансамбляў больш, чым ва ўсіх іншых абласцях краіны разам узятых, таму менавіта тут было вырашана правесці абласны фестываль, які пасля перарос у рэспубліканскі. Сябры аргкамітэта адзначылі зладжанасць работы ўсіх службаў, якія забяспечвалі работу фестывалю, што арганізатарам дазволіла адчуваць сябе гасцямі на свяце: арганізацыйныя пытанні былі вырашаны мясцовымі ўладамі.

Горад можа займець свой традыцыйны фестываль, бо тут ёсць выдатная зала ў Доме культуры, канцэртныя пляцоўкі. Гэта дазваляе Лідзе, на думку арганізатараў, заявіць пра сябе не менш ярка за тыя ж Віцебск ці Магілёў.

Падчас гутаркі ў выканкаме закраналіся праблемы існавання народных калектываў увогуле (не толькі "кангламератаў" кшталту ансамбля песні і танца). Бо многія з іх проста не могуць выехаць на фестывалі, якія праводзіць Міністэрства культуры, — ім раяць шукаць спонсараў. А якога спонсара можа знайсці сельскі калектыў? Там жа няма заможных прадпрымальнікаў. Таму любая дапамога калектывам, няхай самая сціплая, мае вялікае значэнне. Вядома, любы калектыў можа існаваць толькі ў тым выпадку, калі вядзе актыўную канцэртную дзейнасць: як толькі ён сядзе на "галодны рэпетыцыйны паёк" — ён пачынае затухаць і, фактычна, развальваецца. Таму асаблівая падзяка выказвалася і арганізатарам фестывалю — Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь, Упраўленню культуры Гродзенскага аблвыканкама, Лідскаму гарадскому выканаўчаму камітэту, Лідскаму раённаму выканаўчаму камітэту, і яго фундатарам (няхай даруе чытач за доўгі спіс) — Малочнакансерваваму камбінату, Вытворчаму аб'яднанню жыллёва-камунальнай гаспадаркі, гаспадаркам Лідскага раёна (калгасу "Беларусь", саўгасу "Маламажэйкава", торфапрадпрыемству "Дзітва", Лідскай "Сельгастэхніцы"). Асаблівы каларыт фестывалю надало спонсарства Лідскага піўзавода — адзін са спецыяльных прызоў уяўляў сабой скрыню піва.



*Выступае "Яблынька" з Гарадка Віцебскай вобласці.*



*Удзельнікі фестывалю на вуліцах Ліды.*

Фестываль прайшоў у літаральным значэнні гэтага слова "на ўра" — апладысменты перапоўненай залы на гала-канцэрце былі гучнейшыя за ўзмоцненую дынамікамі музыку. Сапраўды, больш дзесяці калектываў паказвалі цэлыя комплексныя праграмы з элементамі драматургіі, якія былі "сшытыя" імправізацыямі вядучых — Алега Скарыны і Ганны Янавай. Асаблівую цікавасць у мяне выклікаў смаргонскі ансамбль песні і танца імя М.К.Агінскага, які паказаў, што класічныя аўтарскія творы могуць выдатна спалучацца з "народнасцю", за што і атрымаў спецыяльны прыз штотыднёвіка "Культура". Гарадоцкі калектыў "Яблынька" і жлобінскі "Крыніца" атрымалі ганаровае трэцяе месца, другое занялі "Лідчанка" і ўжо згаданы ансамбль песні і танца імя М.К.Агінскага, а пераможцамі сталі маладзечанскі ансамбль "Спадчына" і гродзенскі "Нёман".

За два дні да пачатку гэтага фестывалю па прапанове Міністэрства культуры і федэрацыі прафсаюзаў урад прыняў рашэнне аб правядзенні Першага фестывалю народных мастацтваў Беларусі пад умоўным дэвізам "Беларусь — мая песня". Адкрыццё яго ў бліжэйшы час адбудзецца ў Мінску, абласных і раённых цэнтрах. Фестываль у Лідзе стаў першым святам, якое распачало гэтую грандыёзную праграму. Па меркаванні арганізатараў, гэты форум павінен ахапіць усе віды і жанры народнага мастацтва, а таксама аднавіць традыцыю правядзення буйных фестываляў. Бо апошні падобны праходзіў... дзесяць гадоў таму і быў прысвечаны 70-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля праводзіліся толькі лакальныя фестывалі, абмежаваныя тым або іншым жанрам. У гэтым, "вялікім" павінны прыняць удзел усе калектывы — пачынаючы ад вясковых і да калектываў абласных цэнтраў і сталіцы. Такія форумы, як Рэспубліканскі фестываль харавых калектываў "Пеўчае поле", які адбываецца на Нарачы 4 — 6 ліпеня, Фестываль беларускага гумару, які пройдзе ў Калінкавічах 11 — 13 ліпеня, ужо ўваходзяць у структуру Першага фестывалю народнага мастацтва. Пачынаючы са снежня, будуць праходзіць раённыя, гарадскія, занальныя, абласныя конкурсы па жанрах, на якіх будуць адабраны лепшыя з лепшых калектываў, а ўсе лаўрэаты абласных тураў прымуць удзел у заключных мерапрыемствах, якія плануецца правесці ў Мінску 3 — 5 ліпеня 1998 года. Мяркуецца, што фестываль стане самай яркай падзеяй наступнага года, бо ў ім прымуць удзел больш за 2 тысячы калектываў.

**Алесь ТУРОВІЧ,**
**наш спецкар.**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ**

# БУДЗІНАС ... ВЫСОЎВАЕЦЦА

аўто па старажытных сядзібах". Безумоўна, усіх гасцей чакала экскурсія па музею матэрыяльнай культуры. Сярод экскурсантаў — і знакаміты арганізатар калгаснай гаспадаркі Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля, сённяшні, так бы мовіць, сенатар, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы. Госць не выпадковы. Ужо хаця б таму, што Бядуля і сам не цураўся спалучэння духоўных клопатаў з матэрыяльнымі турботамі. Можа таму і выстаяў да сённяшняга часу калгас Бядулі (зараз там сярэдняя зарплата складае больш за паўтара мільёна рублёў), што запрашаў калгасны старшыня ў свой Палац культуры паэтаў і мастакоў, акцёраў і музыкантаў. Нават Вазнясенскага вечар быў наладжаны для калгаснікаў. Дарэчы, Будзінас некалі працаваў у Бядулі ў калгасе, займаўся будаўніцтвам, а пасля напісаў пра яго кнігу.

Ці не галоўнае, чым апякуюцца ў "Дудутках", — гэта спалучэнне культуры, духоўнасці з рэальным жыццём. Усе музейныя цэхі, вятрак, кузня — аб'екты дзеючыя. Ёсць і кароўнік, і канюшня. Ёсць пасека. Музейшчыкі "Паліфакта" дасведчанаму гісторыку і радавому экскурсанту як быццам стараюцца нагадаць — такім быў лад жыцця нашых продкаў, ніколькі не горшым, а ў многім і лепшым за сучасную мітусню. Навучыўшыся валодаць камп'ютэрам, вывучыўшы дзве-тры замежныя мовы, мы пазбавілі сябе многага іншага. Пазбавіліся многіх майстэрстваў і ўменняў. Яўген Будзінас з гэтай нагоды гаворыць вельмі жорстка, прамалінейна, але шчыра:

— Карэннае насельніцтва гэтых мясцін валодае, на жаль, ужо толькі абмежаваным наборам гаспадарчых навыкаў. Адно бульбу, прабачце, садзіць і ўмеюць. Усе астатнія рамёствы, народныя промыслы засталіся далёка ў мінулым. Тую працу, што лічыцца сёння промыслам, могуць зрабіць толькі людзі высокакваліфікаваныя. Па дзвюх прычынах. Першая — весці вытворчасць ужо неабходна па цывілізаваных законах, а не па законах натуральнай гаспадаркі. Для вытворчасці патрэбен сучасны вобраз мыслення, "гарадскі" характар паводзін. Па-другое, спасцігнуць забытыя рамёствы могуць толькі людзі з пэўным узроўнем адукаванасці. Каб сплесці лапаць, патрэбен ужо не селянін, які забыўся пра ўсё на свеце і прапіў памяць. Патрэбен мастак, дызайнер, канструктар, улюбёны ў гісторыю чалавек. Адпаведна і зарплату яму трэба плаціць не за лапаць, а за лапаць і кваліфікацыю. І за любоў да справы таксама трэба плаціць. Прадпрыемства ў такім выпадку загіне з-за фінансавых стратаў. Дзе ж выйсце? Выйсце толькі адно — сіламі аматараў і фанатыкаў ствараць цэх рамёстваў, а майстроў падрыхтаваць тут, на месцы. Праблема — у стварэнні неіснуючага, але для Беларусі, на шчасце, не зусім страчанага. Ёсць яшчэ людзі, здольныя ўспомніць, як трэба карыстацца кавадлам, верацяном, рубанкам.



...І побач пры такой увазе да матэрыяльнай культуры як першаасновы — мастацкі пленэр, музычны салон. Пра яго — музычны салон у маёнтку Ельскіх — хацелася б сказаць крышачку падрабязней. Безумоўна, не так ужо цяжка зацягнуць і ў самую далёкую правінцыю фартэпіяна. Але... Але якія майстры сядзелі за фартэпіяна, што выконвалі! Музычны кіраўнік праграмы і выканаўца партыі фартэпіяна — дыпламант міжнароднага конкурсу Ганна Каржанеўская. Вядучы салона — мастацкі кіраўнік "Беларускай Капэлы" Віктар Скорабагатаў. Уладзімір Буры на флейце выканаў "Паланез" К.Ельскага, "Песню без слоў" М.Ельскага, "Мелодыю" з оперы "Арфей і Эўрыдыка". Захапіла ўсіх слухачоў майстэрства піяніста Уладзіміра Дулава, які выконваў "Мазурку" М.Ельскага, "Паланез" С.Манюшкі, шэраг іншых твораў. Са спевамі выступілі Віктар Скорабагатаў, Рыгор Палішчук, Алена Бундзелева. Адбылася прэзентацыя альбома і аўдыёкасеты "Антоній Генрык Радзівіл". Між іншым, гэта ўжо трэці па ліку музычны альбом, які выдае "Паліфакт".

Асобна пазначана была ў праграме адкрытая прэс-канферэнцыя "Канцэпцыя выжывання культуры ў новых умовах". Яе ўдзельнікі — людзі, неабыякавыя да лёсу музея матэрыяльнай культуры: сам Яўген Будзінас, прафесар Анатоль Федарук, прафесар Яўген Сахута, дацэнт, знаны гісторык беларускага народнага дойлідства Сяргей Сергачоў.

Асобную старонку ў гісторыю тэатральнага жыцця "Дудутак" упісаў тэатр-лабараторыя "Вольная сцэна". "Рычард" Уільяма Шэкспіра прадстаў перад гледачамі ў апратцы беларускага менталітэту (аўтарызаваны пераклад і сцэнічная рэдакцыя Аляксея Дударава). Пастаноўка ажыццёўлена заслужаным дзеячам мастацтваў, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валерыем Анісенкам.



Няма сумненняў, фэст старасвецкай культуры надоўга застанецца ў памяці яго ўдзельнікаў. Але зразумела і другое: фэст, іншыя мерапрыемствы ў "Дудутках" — усё дзеля таго, каб прыцягнуць увагу да такой з'явы, як прыватны музей, увогуле да самой ідэі ўдзелу прыватнікаў у захаванні і зберажэнні гістарычнай, культурнай спадчыны.

Праўда, дзяржава не заўсёды ідзе насустрач... Таму і ў гэтым плане пазіцыя Яўгена Будзінаса вызначаецца рашучасцю, прынцыповасцю:

— У нас абсалютна адсутнічае статус прыватнага музея, прыватнай калекцыі. Затое развіта супрацьпастаўленне прыватнага і дзяржаўнага. Такую прыгажосць, маўляў, ды ў прыватныя рукі... Жыве падобная логіка... І не могуць некаторыя зразумець, што менавіта ў прыватных руках гэтая прыгажосць становіцца дзяржаўным і нацыянальным здабыткам. Супрацьпастаўленне тут проста неразумнае. Рэальнасць такая, што менавіта аддаючы ў прыватныя рукі гістарычныя і культурныя помнікі, дзяржава іх набывае. Пры гэтым, вызваляючы "прыватніка" ад падаткаў, дзяржава не страчвае грошы, а знаходзіць іх, бо кожны рубель, укладзены ў аднаўленне, вяртанне культуры, павялічвае нацыянальнае багацце на сумы, якія ў дзесяткі, сотні разоў перавышаюць затраты.

Зразуметае, практыкай асэнсаванае Будзінасам ці разумее дзяржава?.. І калі яна яшчэ гэта зразумее?..

**Мікола ЦІТВЯНСКІ,**
**наш спецкар.**
**Фота Сяргея ВАСІЛЬЕВА**

№ 26 5 — 11 ліпеня 1997 г.

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# НАШЫ ПІЦЕРУ НЕ "ПАДАЛІСЯ"...

Шчыра кажучы, кожны фестываль, які нараджаецца на планеце Зямля, павінен жыць. Я маю на ўвазе кінафорумы. Да прыкладу, чаму ўвесь свет ведае Канскі кінафестываль, а "Лістапад", што ладзяць на Беларусі, амаль ніхто? Мяркую: Каны больш прэстыжныя, бо да гэтага фестывалю рыхтуюцца прафесіяналы-кінематаграфісты. Дарэчы, і стужкі на такога кшталту фэст трапяць не выпадкова... Дый прэміі істотней, што не лішне сказаць.

Міжнародны кінафестываль "Послание к Человеку", які ў сёмы раз адбыўся ў Санкт-Пецярбургу, заўважна набірае моцы ў сусветным фестывальным руху. Пецярбургская школа дакументальнага кіно добра вядомая і паважаная сярод прафесіяналаў і гледачоў. Дакументальнае кіно мае свой "шарм" — з цягам часу каштоўнасць яго толькі ўзрастае. І чым больш гадоў якому-небудзь хроніка-дакументальнаму фільму, тым цікавей яго глядзець, нават калі ніхто і не мысліў пра мантаж і мастацкія "звабкі". Фестываль прадставіў, на мой погляд, "цяжкія" жанры кінематографа: дакументальныя, кароткаметражныя, ігравыя і анімацыйныя стужкі патрабуюць асаблівага майстэрства — філасофскай задумы, лаканічнасці, дэтальнага мастацкага аналізу. Для ўдзелу ў конкурсных праграмах былі дасланы 433 стужкі з 43 краін свету, а ўсяго адабралі 100 стужак з 40 краін. Хочацца адзначыць, што высокая якасць фільмаў у гэтым годзе назіралася ў конкурсе дэбютаў. І калі свету Санкт-Пецярбург адкрые новыя імёны маладых таленавітых рэжысёраў, то асноўная задача кінафоруму "Послание к Человеку" будзе выканана.

Сярод конкурсных праграм у розных намінацыях удзельнічалі стужкі і беларускіх кінематаграфістаў: "Час мясцовы" Сяргея Лук'янчыкава і "Жыло-было дрэва" Уладзіміра Пяткевіча. Фільм "Фаўст Арлена" Галіны Адамовіч быў паказаны па-за конкурснай праграмай. Для даведкі хачу нагадаць, што ў 1989 годзе "Залатога кентаўра" — Гран-пры фестывалю — атрымалі беларускія кінематаграфісты Аркадзь Рудэрман і Юрый Хашчавацкі за фільм "Сустрэчны іск".

У сусветным кіно кароткаметражкі — самастойны і варты ўвагі жанр, нават знакамітыя рэжысёры час ад часу здымаюць "кароткі метр". У нас так склалася, што кароткаметражныя карціны здымаюць як дыпломныя ці дэбютныя стужкі. Тым не менш няма таго рэжысёра, які не зняў бы ў свой час кароткаметражку. Бывае, што яна застаецца адной з лепшых карцін... Памятаеце стужкі "Спыніце Патапава" Вадзіма Абдрашытава, альманах "Прыход цягніка" з удзелам Сяргея Макавецкага, анімацыйную працу "Муха" Ігара Волчака? Зразумела, што ўсе названыя імёны вядомыя ў кінематографе, я толькі хачу падкрэсліць, што кароткаметражкі — асобны і самастойны жанр.

Журы фестывалю, як і заўсёды, складалася з гучных і вядомых імён: Сава Куліш, Вінсент Моніkдам, Алі Дэркс, Волчан Волчанаў, Сяргей Дзебіжаў, Экхарт Брухнер, Мурат Мамедаў, Рэйн Раамат.

Падчас працы фэсту "Послание к Человеку" ў Санкт-Пецярбургу паралельна адбываліся некалькі вялікіх культурных мерапрыемстваў: традыцыйны фестываль "Белыя ночы", міжнародны кінафорум "Фестываль фестываляў" і, нарэшце, гастролі зорнага маскоўскага тэатра імя Ленінскага камсамола... І калі прадстаўнікі mass-media Паўночнай Пальміры вырашылі зрабіць падлік гледачоў у залах, дзе праходзілі гэтыя падзеі, то прыемна здзівіліся, убачыўшы паўнюткую глядацкую залу Дома кіно. Гэта гонар фестывалю "Послание к Человеку", бо сапраўды, у тую нядзелю надвор'е клікала пакінуць мітуслівы горад і выехаць, напрыклад, на Фінскі заліў...

**P.S.** Аніводная стужка беларускіх кінематаграфістаў не трапіла на гэтым фестывалі ў спіс лаўрэатаў... Шкада... Хоць вядомыя расійскія крытыкі з нецярплівасцю чакалі стужку нашага аніматара Уладзіміра Пяткевіча "Жыло-было дрэва", на якую, на іх думку, павінна было арыентавацца журы...

### Лаўрэаты VII Міжнароднага кінафестывалю "Послание к Человеку".

***Прызы прысуджаны:***

— Гран-пры — "Залаты Кентаўр" — за лепшы фільм фестывалю: "Чорны попел", рэжысёр Шухрат Махмудаў (Узбекістан);

— прыз "Кентаўр" — за лепшы кароткаметражны ігравы фільм: "Цяжкая праца", рэжысёр Коэн Марцье (Бельгія);

— прыз "Кентаўр" — за лепшы анімацыйны фільм: "Раства", рэжысёр Міхаіл Алдашын (Расія); "Русалка", рэжысёр Аляксандр Пятроў (Расія).

***Прэміі прысуджаны:***

— у намінацыі "Дэбют" стужкам: "Пад Нью-Йоркам", рэжысёр Якаб Туесэн (Данія); "Залатое дно", рэжысёр Джордан Меламед (ЗША).

***Спецыяльныя прызы журы:***

— "Як мацуюцца крылы да спін анёлаў", рэжысёр Крэйг Велч (Канада); "Родная старонка", рэжысёр Юрый Шылер (Расія); "Серада. 19.7.1961", рэжысёр Віктар Касакоўскі (Расія).

***Дыпломы фестывалю:***

— "Даніна чорнаму", рэжысёр Ральф Шмерберг (Германія); "На рамонце", рэжысёр Кзаўер Аргуэла (Аргенціна); "Страх", рэжысёр Лінас Рыскус (Літва).



Прыз "Залаты Кентаўр" выкананы мастаком Дзмітрыем Пахомавым па малюнку Надзеі Рушавай.

Надзея, таленавітая школьніца, памерла ў 17 год. Пакінула пасля сябе 10 000 малюнкаў, якія таксама пэўным чынам сталі пасланнем да чалавека — дзяўчынкі, якая з пяцігадовага ўзросту бесперапынна малявала.

"Кентаўра з вянком" яна намалявала ў 14 год.




Калі перад сном разглядаць малюнкі Эшарона, то аднойчы адчуеш нейкую закальцованасць ці наканаванасць застацца ў адных трусах у цэнтры горада... Менавіта такое здарэнне адбылося з героем стужкі "Горад, якога не можа быць".

***Рэжысёр Франсіска Лаўрэйра.***




Як экранізацыя "бумбам-літаўскага" твора, глядзіцца стужка "На рамонце". Герой трапляе ў тэлефонную будку, з якой зляцела паперка з надпісам: "Не працуе". Урэшце ён не толькі патэлефанаваць не здолеў, але і выйсці з яе. Усю ноч герой стужкі пакутуе, як у крыштальнай труне, на цэнтральнай вуліцы вялікага горада.

Рэжысёр Кзаўер Аргуэла.




Фільм мае назву "Канапа". І на гэтай канапе адбываюцца дзіўныя рэчы. І ўсё гэта — камп'ютэрная графіка.

***Рэжысёр Люк Дэгрыз.***




"Паглядзіце на мяне. Я гляджу на вас" — рэальная гісторыя пра нямога фатографа. На 19 хвілін мы акунаемся ў свет, які бачаць і ўспрымаюць глуханямыя людзі, у свет поўнай цішыні, або свет нямога кіно.

***Рэжысёр Брыжыт Леман.***




Героі стужкі, Ён і Яна, увесь час фантазіруюць, і рэальнасць у карціне пастаянна пераплятаецца з вымыслам. Адна з выдумак — скрасці з падвала віно. Героі залазяць у вялікі чан і п'юць дар вінаграднай лазы. Ідылію парушае вартаўнік каштоўнага пограба. Адзіны паратунак — ныранне ў віно.

Кароткаметражка мае назву "Саладзей за віно".

***Рэжысёр Юлія Лакцяў.***




Расповед пра жыццё чыгуначніка, які 53 гады правяраў дзесяцікіламетровае рэльсавае палатно... А сам ніколі і нікуды не выязджаў... Вядаць, і сапраўды існуе "Час мясцовы", бо такая назва стужкі.

***Рэжысёр Сяргей Лук'янчыкаў.***

## ГІСТАРЫЧНЫ ДАЙДЖЭСТ

Тэрмін "дакументальнае кіно" ўпершыню выкарыстаў Эдвард Куртыс — пастаноўшчык фільма "У краіне паляўнічых за галовамі" (ЗША, 1914 год). Ён так назваў сваю стужку пра абарыгенаў Амерыкі ў рэкламным ролiку. І толькі ў 1926 годзе кінакрытык Джон Грырсан паўтарыў тэрмін у сваёй рэцэнзіі на фільм Роберта Флаэрці "Моана" у газеце "Нью-Йорк Сан".

Першым дакументальным фільмам лічыцца "Школа кавалерыі ў Самуры" (Францыя, 1897 год) даўжынёй 1330 футаў (20 хвілін).

Першую кінахроніку зняў фатограф Берт Акрс падчас адкрыцця Кільскага канала кайзерам Вільгельмам II 20 чэрвеня 1895 года. А першая дэманстрацыя карціны адбылася ў Берліне ў Каралеўскім фатаграфічным таварыстве 14 студзеня 1896 года.

Першыя поўнаметражныя дакументальныя фільмы — "Амерыканскае паляванне" (ЗША, 1912 год, рэж. Пол Рэйні), "100 год марманізму" (ЗША, 1912 год), "Вандраванне Акакія Цэрэтэлі па Рачэ і Лечхуме" (Расія, 1912 год, рэж. Васіль Амашукелі). Усе гэтыя стужкі дожыліся каля гадзіны.

Першы гукавы дакументальны фільм "Жыццё ў вёсцы" быў зняты ў Германіі ў 1923 годзе.

Самы касавы дакументальны фільм "Пра што гаварыць з аголенай дамай" (ЗША, 1970 год, рэж. Ален Фант) сабраў 10,5 млн. долараў.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала Жанна ВАСАНСКАЯ**

К КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 03.07.97. у 20.00.
Замова 1782.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**